Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 555.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 3 сакавіка 1998 г. | № 20 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Заява Вашынгтона

### *Злучаныя Штаты заклікаюць кіраўніцтва Беларусі адмяніць судовае рашэнне па справе Шыдлоўскага і Лабковіча*

Пра гэта гаворыцца ў спецыяльнай заяве Дзяржддэпартамента ЗША. *«Да дзяцей недапушчальна адносіцца так, як да звычайных злачынцаў,* — падкрэсліваецца ў заяве. — *Не было ніякіх падставаў лічыць, што гэтыя два падлеткі ўяўляюць небяспеку».* Шасцімесячнае дасудовае ўтрыманне Шыдлоўскага і Лабковіча за кратамі расцэньваецца як *«неабгрунтаванае і антыгуманнае».* Нанясенне антыпрэзідэнцкіх надпісаў на сцены з'яўляецца, на думку амерыканцаў, *«нязначным грамадзянскім правапарушэннем».* І той факт, што ўчынку школьніка і студэнта быў неабгрунтавана нададзены характар крымінальнага злачынства і вынесены жорсткі прысуд, — гэта *«нагадвае пра горшыя злоўжыванні часоў Савецкага Саюза».*

*«Мы заклікаем беларускія ўлады вызваліць зняволенага юнака і адмяніць вартае жалю рашэнне»,* — гаворыцца ў заяве Дзярждэпартамента ЗША.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Міхаіл Чыгір стаў масквічом

**Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір заняў адказную пасаду ў адным з буйных расійскіх банкаў. З учарашняга дня Міхаіл Чыгір працуе ўжо ў Маскве.**

Афіцыйна былы прэм'ер-міністр Беларусі быў беспрацоўным з лістапада 1996 года, пасля таго як ён падаў у адстаўку, не пагадзіўшыся з планамі прэзідэнта А.Лукашэнкі праводзіць рэферэндум аб увядзенні новай канстытуцыі. Лагічным стала паступовае збліжэнне Міхаіла Чыгіра з апазіцыяй: у 1997 годзе ён уваходзіць у Нацыянальны выканаўчы камітэт (своеасаблівы ценявы ўрад) пры Вярхоўным Савеце 13-га склікання, адным з першых падпісвае Хартыю-97, пачынае больш крытычна ацэньваць унутраную палітыку беларускіх уладаў у публічных выступах. Што ж тычыцца працоўнай дзейнасці, то стала Чыгір нідзе не працаваў, калі не лічыць кансультатыўных паслугаў. Між тым, за паўтара года яму паступіла нямала цікавых прапановаў: ад магутнай нафтавай кампаніі, ад нямецкага банка, некалькі запрашэнняў ад расійскіх банкаў. Як сцвярджаюць сваякі Міхаіла Чыгіра, ён заўсёды аддаваў перавагу прапановам, звязаным з працай у Беларусі, але паступова стала зразумела, што працаваць тут у нармальным рэжыме яму не дадуць. У выніку і было прынята запрашэнне, якое паступіла ад аднаго з вядучых расійскіх банкаў са штаб-кватэрай у Маскве.

Сям'я Міхаіла Чыгіра хуткага пераезду ў Маскву не плануе, хаця і не выключае, што з цягам часу пераезд адбудзецца.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## «Крамольны» сцяг Еўрасаюза

**Незвычайны выпадак здарыўся нядаўна ў Мінску: міліцыянты адмовіліся падпарадкоўвацца чыноўніку міністэрства юстыцыі.**

Прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі праводзілі ў пятніцу пікет у абарону палітзняволеных Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука, а таксама збіралі подпісы пад Хартыяй-97. Да пікетчыкаў падышоў чалавек, які прадставіўся начальнікам упраўлення грамадскіх аб'яднанняў міністэрства юстыцыі Міхаілам Сухініным. Чыноўнік адразу ж запатрабаваў, каб актывісты АГП прыбралі сцяг Еўрапейскага Саюза, які трымаў у руках адзін з пікетчыкаў, бо, маўляў, блакітна-зорнае палотнішча «не зарэгістраванае ў міністэрстве юстыцыі».

Аднак выконваць гэты загад адмовіліся не толькі апазіцыянеры, але і міліцэйскі нарад, які дзяжурыў побач. Міліцыянты, да якіх Сухінін патрабаваў канфіскаваць «крамольны» сцяг, патлумачылі чыноўніку, што пікет афіцыйна дазволены гарвыканкамам, удзельнікі грамадскага парадку не парушаюць, а сімпатыі або антыпатыі сп.Сухініна да пэўнай сімволікі з'яўляюцца яго асабістай праблемай. Няўжо амбасады замежных краінаў таксама павінны паздымаць нацыянальныя сцягі сваіх дзяржаваў: яны ж таксама «не зарэгістраваныя ў міністэрстве юстыцыі»?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



На здымку: Браніслаў Герэмэк і Іван Антановіч на прэс-канферэнцыі.



На здымку: кіраўнік назіральнай групы АБСЕ пасол Ханс-Георг Вік з Германіі. Разам з ім у Беларусі будуць пастаянна знаходзіцца яшчэ чатыры прадстаўнікі АБСЕ — швейцарац, румын, датчанін і амерыканец. Офіс місіі знаходзіцца ў мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры ІВВ.

## АБСЕ ў «царстве закона»

**У мінулую пятніцу ў Беларусі адбылася важная падзея: прыступіла да працы назіральная група Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.**

На афіцыйную цырымонію адкрыцця прадстаўніцтва прыязджаў дзеючы старшыня АБСЕ Браніслаў Герэмэк, польскі міністр замежных справаў. Ён выступіў з кароткай прамовай перад прадстаўнікамі афіцыйных уладаў, дэпутатамі разагнанага парламента, праваабаронцамі і журналістамі, якія былі запрошаныя на адкрыццё ў міжнародны цэнтр ІВВ. Б.Герэмэк падкрэсліў, што АБСЕ гатовая садзейнічаць умацаванню дэмакратыі ў Беларусі, каб наша краіна стала бліжэй да Еўропы. Тым не менш, лічыць старшыня АБСЕ, ці зможа Беларусь скарыстаць прадастаўленую ёй магчымасць, цалкам залежыць ад беларускіх уладаў. Б.Герэмэк звярнуўся ў сваёй прамове да ўрада Беларусі з заклікам знайсці прымальныя формы супрацоўніцтва з групай АБСЕ. На прэс-канферэнцыі дзеючы старшыня даў зразумець, што ніводная еўрапейская структура не прызнае легітымнасць «нацыянальнага сходу» Беларусі. Па словах Б.Герэмэка, назіральная група будзе мець жорсткі падыход у пытаннях правоў чалавека і дэмакратычных нормаў, аднак далікатна паставіцца да нацыянальнай спецыфікі і традыцый.

Падчас перамоваў з кіраўніком беларускага знешнепалітычнага ведамства Браніслаў Герэмэк падняў пытанне пра палітвязняў у Беларусі. Адказ Івана Антановіча быў стандартны: *«У нас няма палітычных вязняў і не будзе».* У кулуарах адзін польскі журналіст вылавіў Антановіча і працытаваў яму заяву Дзярждэпартамента ЗША наконт асуджаных па палітычных матывах падлеткаў Лабковіча і Шыдлоўскага. Міністр абурыўся: маўляў, як можа Дзярждэпартамент аспрэчваць рашэнне суда? Па словах Антановіча, Беларусь гэта *«царства закона і парадку».*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Пракуратура зацікавілася конкурсам на лепшага снайпера

**Мінская пракуратура пачала высвятляць абставіны спаборніцтваў па стральбе на прызы імя Лі Харві Освальда.**

Такі конкурс праводзіўся 1 сакавіка ў Мінску ў рамках акцыі «Алімпіяда Маладога Фронту». У конкурсе ўзялі ўдзел 56 чалавек — актывісты Маладога Фронту і іншых палітычных арганізацыяў, а таксама некалькі журналістаў. Удзельнікі стралялі з пнеўматычнай вінтоўкі па мішэнях. Першае месца заняў карэспандэнт агенцтва БелаПАН Генадзь Барбарыч, які выбіў з 30-ці магчымых 29 ачкоў; другое — актывіст Маладога Фронту Сяргей Мацкойць; трэцяе — прадстаўнік Маладой Грамады Васіль Канапляннікаў. Пераможцу былі ўрачыста ўручаныя ўзнагароды — медаль алімпіяды і бутэлька піва.

Як паведаміў намеснік начальніка следчага ўпраўлення гарадской пракуратуры Барыс Лягчын, яго ведамства збіраецца высветліць, ці ўсё было законна пры арганізацыі і правядзенні гэтых спаборніцтваў. Дзеля гэтага пракуратура зробіць запыт у Маскву, да кіраўніцтва ОРТ на прадмет атрымання відэазапісу, знятага падчас спаборніцтваў і паказанага ў эфіры. Б.Лягчын спадзяецца, што атрымаць відэазапіс удасца.

Магчыма, такая асаблівая цікавасць пракуратуры выкліканая каментарамі, якія прагучалі ў праграме «Время» ўвечары 1 сакавіка. Пры жаданні ў гэтых каментарах можна было ўгледзець намёк на тое, што прэзідэнт замаху на прэзідэнта, які меў месца ў Злучаных Штатах і ў чым быў абвінавачаны Лі Харві Освальд, можа паўтарыцца ў сучасных абставінах.

*БелаПАН*

## Расія вырашыла паінфармаваць

**Расійскі міністр па справах СНД Анатоль Адамішын паінфармаваў прэзідэнта Лукашэнку пра выніку расійска-ўкраінскага саміта, што прайшоў у Маскве ў канцы лютага.**

Як паведаміў Адамішын журналістам пасля сустрэчы з А.Лукашэнкам, ён спецыяльна прыязджаў у Мінск па даручэнні Барыса Ельцына. *«Расія і Беларусь з'яўляюцца саюзнымі дзяржавамі, а таму па некаторых пытаннях павінны інфармаваць адзін аднаго»,* — заўважыў Адамішын. Сутнасць пазіцыяў саюзнікаў наконт Украіны заключаецца ў пошуках шляхоў больш цеснага супрацоўніцтва з гэтай дзяржавай.

Расійскі міністр таксама паведаміў, што адным з вынікаў сустрэчы Ельцын—Кучма стала рашэнне правесці міждзяржаўную канферэнцыю па праблемах СНД, дзе будуць абмяркоўвацца перспектывы Садружнасці. Пры гэтым Адамішын падкрэсліў, што вельмі важнымі з'яўляюцца двухбаковыя кантакты. У прыватнасці, цяпер распрацоўваецца *«доўгатэрміновая праграма ўзаемадзеяння Расіі і Украіны».*

*Інтэрфакс*

## У чацвёрцы будзе пяты

**Міжпарламенцкі камітэт Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі выказваецца за прыняцце Таджыкістана ў Мытны саюз «чацвёркі».**

Як паведаміў старшыня Бюро МПК А.Эркенбаеў, члены камітэта перакананыя, што на мінскім саміце Мытнага саюза ў красавіку *«чацвёрка трансфармуецца ў пяцёрку».* Старшыня камітэта па справах СНД Дзярждўмы Расіі Г.Ціханаў сказаў: *«Нас не павінна насцярожваць тое, што 30% месцаў у структурах вышэйшай улады Таджыкістана зоймуць прадстаўнікі апазіцыі».*

*Інтэрфакс*

*Заўтра ў нумары*

## Вялікі кантрабандны шлях

Расійска-беларускі мытны саюз, заключаны тры гады таму, адкрыў Вялікі кантрабандны шлях. З тых часоў бюджэт Расіі страчвае штогод сотні мільёнаў долараў. Але, нягледзячы на цэлы шэраг скандалаў, звязаных з тым, што на тэрыторыі Беларусі па льготных расцэнках растаможваюцца вялікія партыі самых розных тавараў, якія затым бесперашкодна трапляюць на расійскі рынак, гэтая схема працягвае паспяхова функцыянаваць і па сённяшні дзень.

Адказаць на шматлікія пытанні, што ўзнікаюць у сувязі з гэтай сітуацыяй, можа толькі чалавек, які ведае яе знутры. Журналісту Аляксандру Старыкевічу ўдалося знайсці такога сведку. Гэта беларускі бізнесмен, прэзідэнт калісьці буйнейшага ў краіне холдынга «Пушэ» Аляксандр Пупейка, які цяпер знаходзіцца ў Польшчы.

*(Матэрыял А.Старыкевіча будзе апублікаваны ў заўтрашнім нумары нашай газеты.)*

## Пікет «Хартыі-97» у Гомелі

**Пікет у падтрымку Хартыі-97 правялі ў Гомелі актывісты мясцовых арганізацыяў АГП і БНФ.**

Падчас пікета 120 гомельцаў паставілі подпісы пад тэкстам хартыі, а некалькі чалавек сталі сябрамі Беларускага Народнага Фронту. Для многіх пікет стаў і адкрыццём незалежнай прэсы: нарасхват ішлі газеты «Рабочы», «Народная воля» і новае гомельскае выданне «Навіны Палесся», тым больш што іх раздавалі бясплатна. Увогуле ж гараджане выявілі цікаўнасць да акцыі, і вакол пікетчыкаў несупынна працаваў стыхійны дыскусійны клуб — з паўсотні чалавек.

Міліцыя паводзіла сябе карэктна, да пікета бліжэй чым на 100 метраў не набліжалася і людзей са сцягамі не чапала.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Беларусь—Літва*

## Пасол Вайтовіч заявіў пратэст

**Беларускі пасол у Літве Яўген Вайтовіч заявіў міністэрству замежных справаў Літвы пратэст у сувязі з тым, што дэлегацыя беларускай апазіцыі была прынятая ў Сейме.**

На сустрэчы з намеснікам міністра замежных справаў Літвы Р.Бярнотасам беларускі пасол адзначыў, што Беларусь расцэньвае гэтую падзею як факт, які *«не садзейнічае развіццю дружалюбных адносінаў»* паміж краінамі. У прэс-рэлізе беларускага пасольства адзначаецца, што на прэс-канферэнцыі ў Сейме прадстаўнікі апазіцыі *«толькі негатыўна ахарактарызавалі палітычныя і эканамічныя працэсы, якія праводзяцца ў Беларусі, дазволілі сабе некалькі зневажальных выказванняў аб беларускім кіраўніцтве».*

Нагадаем, што прадстаўнікі апазіцыйных сілаў Беларусі на чале з лідэрам фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» Вярхоўнага Савета 13-га склікання Станіславам Багданкевічам знаходзіліся ў Літве з 21 па 22 лютага. Члены дэлегацыі сустрэліся з прадстаўнікамі фракцыяў літоўскіх кансерватараў, хрысціянскіх дэмакратаў, Дэмакратычнай партыі працы і цэнтрыстаў, а таксама ўзялі ўдзел у семінары кансерватыўных партыяў Еўропы, прысвечаным пытанням дэмакратыі.

*BNS — БелаПАН*

## Кожны пяты беларус – ахвяра рэпрэсіяў

**Эн Спекхард, жонка пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда, выступіла ў Мінску з дакладам на навуковай канферэнцыі «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў XX стагоддзі».**

Спадарыня Спекхард — доктар псіхалагічных навук. Для многіх усходнееўрапейскіх народаў, асабліва для беларусаў, псіхалагічная трагедыя сацыяльных узрушэнняў расцягнулася на ўсё XX стагоддзе, лічыць Эн Спекхард. У сваім дакладзе, спасылаючыся на асабістыя даследаванні і дадзеныя іншых навукоўцаў, яна прыходзіць да наступнай высновы: у выніку працяглых рэпрэсіяў XX стагоддзя была атрыманая своеасаблівая псіхалагічная траўма, якая тлумачыць асаблівасці і сённяшняга стану беларускага народа.

Даследаванні больш чым 40 дакладчыкаў, што таксама выступілі на канферэнцыі, значна пашыраюць нашае ранейшае ўяўленне аб маштабах рэпрэсіяў у Беларусі ў XX стагоддзі. Тое, што адбывалася на зямлі Беларусі па волі бальшавікоў з 20-х да 50-х гадоў, нельга тлумачыць толькі класавай барацьбой пралетарыяту з буржуазіяй ці пераследаваннем так званых «ворагаў народа» з мэтай умацавання злачыннага камуністычнага рэжыму. Як лічаць удзельнікі канферэнцыі, рэпрэсіі XX стагоддзя ў Беларусі варта называць генацыдам супраць беларускага народа з мэтай знішчыць усю нацыю. Пра гэта сведчаць як мэтанакіраванае знішчэнне эліты беларускага грамадства, так і масавасць «чыстак» сярод простага насельніцтва. Усяго ў XX стагоддзі ад рэпрэсіяў пацярпеў кожны пяты жыхар Беларусі — такую лічбу прывёў на канферэнцыі гісторык, аўтар кнігі «Канвеер смерці» Ігар Кузняцоў.

Лёсам многіх ахвяраў рэпрэсіяў у Беларусі прысвечаная выстава фотадакументаў, якую арганізатары канферэнцыі наладзілі ў гатэлі «Планета». Выстава будзе адчыненая для наведвальнікаў яшчэ 10 дзён.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Дэпутаты просяць пакараць Лукашэнку за прагул

**Сямён Шарэцкі звярнуўся да прэм'ера Сяргея Лінга з лістом.**

Спікер ВС 13-га склікання просіць разабрацца з «парушальнікам працоўнай дысцыпліны» прэзідэнтам Лукашэнкам, які больш двух тыдняў адсутнічаў на працоўным месцы. (Маецца на ўвазе нядаўні вояж Рыгоравіча ў Японію на Алімпіяду). Звярнуцца з прапановаю ў Савет міністраў Сямёну Шарэцкаму даручылі дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія ўбачылі ў паводзінах прэзідэнта грубейшае парушэнне КЗОТу. Парламентарыі лічаць, што лукашэнкаўскі вояж — не што іншае, як прыватная паездка, бо падчас яе прэзідэнт ні з кім з кіраўнікоў у Японіі не сустракаўся. Між тым, Лукашэнка напярэдадні не абвяшчаў, што ідзе ў адпачынак, і таму яго-ныя дзеянні, на думку дэпутатаў, варта кваліфікаваць як звычайны прагул.

Але больш за ўсё дэпутаты абураныя тым фактам, што вандроўка прэзідэнта разам з ахоўнікамі і шматлікай чэляддзю была аплачана з дзяржаўнага бюджэту. *«Мільёны долараў, патрачаныя на гэтую паездку, узятыя з народнай кішэні,* — сцвярджаюць дэпутаты ў спецыяльнай заяве. — *Гэта сацыяльныя гарантыі, адабраныя ў чарнобыльцаў і ветэранаў працы, гэта лекі, якія не атрымоўваюць хворыя дзеці, гэта незакупленае медыцынскае абсталяванне, якое магло б выратаваць сотні жыццяў».* Дэпутаты патрабуюць ад прэм'ера прыняць захады, каб вярнуць у казну патрачаныя грошы і прыцягнуць да адказнасці растратчыкаў. *«Мы маем ужо сотні заяваў з просьбай разабрацца, за чый кошт прэзідэнт гуляў у Нагана»,* — сцвярджае прэс-служба Вярхоўнага Савета.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Саюзныя дэпутаты дапамогуць аэрапорту

**Гомель рыхтуецца да правядзення 8-ай сесіі парламенцкага сходу саюза Беларусі і Расіі, якая павінна адбыцца 4-5 траўня.**

Упарадкоўваюцца дарогі і вуліцы горада (шкада, што толькі тыя, па якіх будуць праязджаць удзельнікі сходу), рэканструюцца будынкі, дзе адбудуцца рабочыя сустрэчы і культурна-масавыя мерапрыемствы. Вялікія сродкі выдаткаваныя і на рэканструкцыю гомельскага аэрапорта. Праз месяц ён павінен быць гатовы прыняць самалёты міжнароднага класа. Авіятары лічаць, што гэта можа стаць першым рэальным крокам на шляху да атрымання гомельскім аэрапортам доўгачаканага міжнароднага статусу.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Чужынцы – прэч з рынку!

**Беларускім прадпрымальнікам сёлета захацелася, кажучы словамі паэта, «людзьмі звацца». Аднак ім перашкаджаюць у гэтым, па-першае, армія падатковых інспектараў, па-другое — як ні дзіўна, замежныя гандляры. Ва ўсякім разе, гэта датычыць Гродна.**

### Няроўныя ўмовы

Прадпрымальнікі, якія займаюцца гандлем на гродзенскіх рынках, — публіка тэмпераментная. Сёлета яны рэгулярна збіраюцца на сходы, на якія людзей прыходзіць усё менш, але тэмпература спрэчак не паніжаецца.

Рынак — месца інтэрнацыянальнае, прыязджаюць гандляваць людзі з розных краінаў. У мясцовых рэўнасць выклікалі раней канкурэнты каўказскія, сярэднеазіяцкія. Цяпер, як ні дзіўна на першы погляд, персонамі *non grata* найперш лічацца палякі. І гэта ў памежным горадзе, дзе шмат хто мае сваякоў у Польшчы, а некаторыя гандляры нават самі запісаныя ў старых савецкіх пашпартах палякамі.

Мінулай восенню на самым вялікім рынку — «Паўднёвым» — быў складзены ліст да ўладаў наконт замежнікаў. Падпісалі яго 150 чалавек. Вынікаў не было. Цяпер складзены яшчэ адзін: пад ім стаіць 141 подпіс, а потым за яго прагаласаваў сход. Чым жа гродзенцам гэтак псуюць кроў тыя палякі?

Па-першае, нашыя перакананыя, што замежнікі маюць лепшыя ўмовы ў сэнсе падаткаабкладання і кантролю. Імі, маўляў, займаецца толькі адзін падатковы інспектар, дый то — толькі адзін дзень у тыдзень. Тым часам сваіх падатковая служба кантралюе штодня, учыняючы на рынках гвалтоўныя праверкі, каб абавязкова хоць за нешта аштрафаваць.

Нашыя гандляры перакананыя, што замежнікі плацяць значна меншыя падаткі (хоць гэта не адпавядае рэчаіснасці), а галоўнае — не сплачваюць мытную пошліну за правоз тавараў праз мяжу. Адкуль жа тая ўпэўненасць? Адна жанчына тлумачыць, што палякі прадаюць на нашым рынку некаторыя рэчы за столькі ж, за колькі беларусы могуць набыць тавар у гуртоўні ў Беластоку. Атрымліваецца, што палякі ў Гродне збіваюць цэны. Для пакупнікоў гэта добра, а для прадаўцоў — наадварот.

Але як у палякаў гэта атрымліваецца? Так, яны прывозяць вельмі вялікія партыі тавару. Аднак добра вядома, што праз мяжу да нас можна ўвезці толькі тры аднолькавыя рэчы, за астатнія трэба плаціць падатак.

Яшчэ адзін аргумент супраць суседзяў: беларусы не могуць так свабодна гандляваць у Польшчы, як палякі ў нас. А калі так, дык няма ім чаго ў нас рабіць...

### Хай дапаможа КДБ

Замежнікаў на рынку «Паўднёвы» па прыблізных падліках — 30%. Чаму ж яны займаюць гандлёвыя месцы ў той час, калі ў адміністрацыі ляжыць каля 500 заяваў ад гродзенцаў, якія таксама хочуць атрымаць «прапіску» на рынку? Гэтыя звесткі яшчэ больш абураюць публіку. Адны прапануюць: выгнаць увогуле палякаў і літоўцаў! Другія гавораць, што выганяць сілай — «недэмакратычна» і трэба афіцыйна забараніць прадастаўленне ім гандлёвых месцаў альбо хацяб запісаць у статуце рынку, што перавагай у гэтай справе карыстаюцца грамадзяне Беларусі.

Потым у спрэчцы высвятляецца, што ўсе месцы і так выкупленыя сваімі, проста замежнікі ім плацяць за арэнду — вось і ўвесь сакрэт. Канфлікт на пустым месцы.

Па словах прадпрымальнікаў, падатковая інспекцыя літаральна тэрарызуе іх, нястомна шукаючы на рынках дробныя зачэпкі, каб штрафаваць гандляроў. У гэтым яны бачаць па сутнасці ўзаконеную сістэму чыноўніцкіх пабораў, што, на іхнюю думку, з'яўляецца «антыдзяржаўнай палітыкай». Кульмінацыяй стала галасаванне за тое, каб звярнуцца па дапамогу ў КДБ! Няхай, маўляў, хоць чэкісты разбяруцца з падатковай службай, калі на яе іншай рады няма.

### Дзеля чаго?

Прадпрымальніцкі рух відавочна пайшоў на спад. Аднадушна прагаласаваўшы два тыдні таму за стварэнне абласнога прафсаюза, толькі каля дзесяці прадпрымальнікаў аформілі сваё членства ў ім. Праўда, грашовыя складкі адразу здалі каля трохсот чалавек.

Каб ажывіць барацьбу, у сакавіку запланавана правесці ў Гродне два мітынгі, прычым на адным спадзяюцца сабраць фантастычную для горада колькасць людзей — 6 тысяч чалавек (так, ва ўсякім разе, запісана ў заяўцы, пададзенай гарадскім уладам). Гучала таксама ідэя добра пагандляваць у сакавіку, прызапасіць грошай, каб у наступным месяцы паспрабаваць зноў правесці забастоўку — не працаваць і не плаціць падаткі.

Ідэі добрыя. Толькі дзеля чаго гэта ўсё — прадпрымальнікі самі не вельмі добра ўсведамляюць.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*СНД*

Учора ў Мінску пачалася міжнародная канферэнцыя «6 гадоў СНД: праблемы і перспектывы». А ў мінулую пятніцу ў Нацыянальным прэс-цэнтры праводзілі «круглы стол» пад назвай «Шэсць гадоў СНД: погляд з Беларусі».

Выступаючы на «круглым стале», вядомы палітолаг Валерый Карбалевіч выказаў думку, што СНД сваё аджыла. *«СНД — гэта фактычна клуб прэзідэнтаў, якія раз у год збіраюцца і даюць прэс-канферэнцыі. Гэтым дзейнасць СНД і абмяжоўваецца»,* — сказаў карэспандэнту НАВІНАЎ В.Карбалевіч. Здаецца, погляд залішне катэгарычны: дзейнасць СНД праяўляецца яшчэ і ў тым, што каманды парламентарыяў перыядычна гуляюць у футбол. Менавіта такія матчы адбываліся ў нядзелю у вайсковым спартыўным комплексе ва Уруччы, удзельнічалі каманды Беларусі, Украіны, Расіі, Казахстана, Малдовы... Так што СНД жыве і гуляе!

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**



*На здымку: гуляюць каманды парламентарыяў Беларусі і Украіны (у цёмных трусах).*

## Пахаванне прадпрымальніцтва адкладваецца

**Хваля прадпрымальніцкіх пратэстаў з буйных гарадоў перайшла на «ціхую правінцыю». У Крычаве, райцэнтры Магілёўскай вобласці, забаставалі 100 прыватных гандляроў.**

Прычынай канфлікту стала павышэнне амаль у 2 разы коштаў арэнды гандлёвага месца. Раней прадпрымальнікі аддавалі на гарадскім рынку 40 тысячаў рублёў у дзень, а цяпер мусяць плаціць па 75 тысячаў. Крычаў — горад невялікі, кішэні ў пакупнікоў паўпустыя. У гандляроў няма асаблівых прыбыткаў. А тут яшчэ трэба пад два мільёны плаціць адміністрацыі рынку. Таму ў мінулую суботу, калі стала вядома аб новых памерах аплаты, гандляры на мітынгу вырашылі спыніць сваю працу і прынялі зварот да гарадскіх уладаў. Сярод крычаўскіх прадпрымальнікаў пачалося стварэнне арганізацыі Свабоднага прафсаюза.

А тым часам магілёўскія ўлады, напужаныя пратэстамі камерсантаў, фактычна забаранілі ім правядзенне дэманстрацыі «Пахаванне прадпрымальніцтва». Свабодны прафсаюз падаваў заяўку на мітынг і дэманстрацыю. У рашэнні гарвыканкама прапануюцца ўсё правесці на пляцоўцы Дома культуры завода штучнага валакна. Па словах кіраўніка магілёўскай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Сяргея Абадоўскага, «рашэнне ўладаў нагадвае дрэнны анекдот: як можна праводзіць дэманстрацыю на невялікай пляцоўцы? Прафсаюз будзе абскарджваць у судзе самавольства ўладаў.»

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Новы прэзідэнт Літвы прысягнуў той самай Канстытуцыі

«Я, Валдас Адамкус, клянуся перад народам у вернасці Літоўскай Рэспубліцы і Канстытуцыі, клянуся паважаць і выконваць законы, захоўваць цэласнасць літоўскіх земляў; клянуся шчыра выконваць свае абавязкі і быць аднолькава справядлівым да ўсіх; клянуся, не шкадуючы сілаў, умацоўваць незалежнасць Літвы, служыць радзіме, дэмакратыі на карысць людзей Літвы. Дапамажы Божа!» — гэтымі словамі прысягі 26 лютага распачаў сваё афіцыйнае прэзідэнцтва 71-гадовы Валдас Адамкус.

Валдас Адамкус сёння вельмі папулярны сярод літоўцаў. Ён настаяў, каб працэс інаўгурацыі праходзіў не ў зале парламента, як звычайна, а на галоўнай плошчы Вільні. І не памыліўся: прысягу і першую прэзідэнцкую прамову Валдаса Адамкуса прыйшлі паслухаць адразу пяць тысячаў чалавек, што сабраліся на плошчы перад касцёлам.

*Адыходзячы з пасады кіраўніка дзяржавы, Альгірдас Бразаўскас (на здымку справа) перадае новаабранаму прэзідэнту Валдасу Адамкусу асаблівую кнігу: на гэтай Канстытуцыі Літоўскай Рэспублікі прыносілі прысягу ўсе прэзідэнты пасля абвяшчэння незалежнасці Літвы ў 1918 г.*



Напярэдадні стала вядома, што В.Адамкус, які падчас выбараў яшчэ меў падвойнае грамадзянства, Літвы і ЗША, сёння толькі грамадзянін Літоўскай Рэспублікі. Амерыканскі пашпарт В.Адамкуса ануляваны, яму выдадзеная дыпламатычная віза на ўезд у ЗША.

Як паведамілі журналістам арганізатары ўрачыстай інаўгурацыі абранага прэзідэнта Валдаса Адамкуса, выдаткі на цырымонію не перавысілі 120 тысячаў літаў (30 тыс. долараў). За духавыя аркестры і феерверкі заплацілі спонсары інаўгурацыі — фірмы *Nescafe*, вытворца піва *Kalnapilis*, *Coca-Cola* і фонд В.Адамкуса.

У апошнім афіцыйным паведамленні, якое распаўсюдзіла прэс-служба Альгірдаса Бразаўскаса, гаворыцца пра развітальныя лісты ўжо былога прэзідэнта кіраўнікам іншых краінаў. Сярод названых — прэзідэнты ЗША, Расіі, Францыі, Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі, Італіі, Фінляндыі, Украіны, прэзідэнт і канцлер Нямеччыны, прэм'ер-міністры і манархі Швецыі, Даніі, Нарвегіі, Вялікабрытаніі, Галандыі. З усіх блізкіх і далёкіх суседзяў Літвы не ўзгадваецца толькі прэзідэнт Беларусі.

## Пенсіянеры будуць ездзіць і гаварыць бясплатна

**З ліпеня гэтага года ў Літве ўводзіцца бясплатны праезд у пасажырскім транспарце для пасажыраў, якія маюць права на ільготы.**

Як патлумачыў міністр транспарту Літвы Альгіс Жваляўскас, новыя правілы будуць рэгуляваць ільготы і дадуць магчымасць мясцовым органам улады больш дакладна падлічваць неабходную суму кампенсацыяў аўтобусным і тралейбусным паркам. Акрамя таго, прэм'ер урада Літвы Г.Вагнорус прапанаваў увесці для ўсіх пенсіянераў ільготы на мясцовыя тэлефонныя перамовы — 5 бясплатных гадзінаў на месяц.

## Вільнюс супраць Багдада

**Літва можа ўзяць удзел у міжнароднай акцыі супраць Ірака.**

У літоўскім Сейме прайшло сумеснае паседжанне камітэтаў па замежных справах і па нацыянальнай бяспецы. Віцэ-старшыня знешнепалітычнага камітэта Сейма Рымантас Дагіс паведаміў, што падчас паседжання працаўнікаў магчымага ўдзелу Літвы ў такой міжнароднай місіі «амаль не было».

## Продаж на дзяржаўнай мове

**Гандляры, што прадаюць імпартныя тавары, павінны выконваць закон аб дзяржаўнай мове.**

По рашэнні літоўскага ўрада, з 1 ліпеня гэтага года ўсе тавары, вырабленыя за мяжой, павінны мець інфармацыю аб складзе прадукту, тэрмінах прыдатнасці і правілах карыстання на літоўскай мове.

**А.ЛАПЦЁНАК,**
*Беларуска-літоўскі Інфармацыйны Цэнтр*

# Польская віза будзе бясплатнай?

**Спецыяльная камісія польскага ўрада прыйшла да высновы, што ўвядзенне новага парадку ўезду беларусаў на тэрыторыю Польшчы значна знізіла прыбыткі вытворцаў і гандляроў ва ўсходніх ваяводствах.**

Паводле звестак афіцыйнай польскай статыстыкі, летась грамадзяне Беларусі выдаткавалі на пакупкі ў Польшчы больш за 400 мільёнаў долараў. Прычым гэтая лічба з году ў год павялічвалася, фактычна беларусы інвеставалі ў польскі бізнес. Сярэднестатыстычны беларускі турыст пакінуў летась у Польшчы каля 150 долараў, і гэта напалову больш, чымся годам раней.

Аднак пасля таго, як напрыканцы 1997 года быў уведзены ў дзеянне новы закон аб чужаземцах, сітуацыя змянілася. *«Колькасць купцоў на польскіх рынках рэзка зменшылася: высокі кошт новых ваўчараў для ўезду ў Польшчу зрабіў чаўночны бізнес нявыгадным. Абароты базараў зменшыліся напалову. Гэта можа прывесці да крызісу нацыянальнай эканомікі»*, — б'е трывогу *Gazeta Wyborcza*, самая аўтарытэтная газета Польшчы.

Гэтая сітуацыя прыносіць страты не толькі гандлёўцам на базарах — яна адбіваецца на польскіх вытворцах, працягвае *Gazeta Wyborcza*. Пакуль што гаспадары гандлёвых месцаў на Стадыёне дзесяцігоддзя ў Варшаве, а таксама на базарах у Тушыне, Жгове і Глухаве не звальняюць работнікаў, але ў сярэдзіне вясны могуць страціць працу каля 100 тысячаў чалавек. На думку Ежы Крапіўніцкага, шэфа Урадавага цэнтра стратэгічных даследаванняў, трэба знізіць кошты візаў і ваўчараў і спрасціць працэдуру выдачы запрашэнняў. У гэтым выпадку эканоміка Польшчы атрымае стымул да развіцця — але што ж будзе з міжнароднымі абавязальніцтвамі Варшавы?

Паводле інфармацыі з МЗС Польшчы, цяпер распрацоўваецца новы візавы парадак. У прыватнасці, праектам прадугледжваецца, што грамадзяне Беларусі і Расіі будуць атрымліваць шматразовыя візы для ўезду ў Польшчу тэрмінам на адзін год, прычым не выключана, што яны будуць бясплатнымі або выдавацца па сімвалічных коштах. Знешнепалітычнаму ведамству даводзіцца шукаць кампрамісы. З аднаго боку, Еўрапейскі Саюз патрабуе ўзмацніць візавы рэжым на ўсходняй мяжы. З другога — на ўрад ціснe прамыслова-гандлёвае лобі. Паводле звестак Гданьскага інстытута даследаванняў рынкавай гаспадаркі, з базарнага гандлю ў Польшчы жыве 130 тысячаў чалавек, задзейнічаных у 7.500 фірмах.

Высокія абароты базараў і значны прыток замежнай валюты ў краіну прывялі да таго, што Нацыянальны банк Польшчы быў вымушаны летась рабіць інтэрвенцыю на валютным рынку, каб не дапусціць залішняга росту курсу злотага. Сёлета сітуацыя адваротная — галоўны банкір краіны Ханна Гранкевіч-Вальц, нядаўна пераабраная на гэтую пасаду, стараецца не дапусціць спаду злотага.

Некаторыя ўрадавыя эксперты лічаць, што сёлета польскі бюджэт можа страціць каля 1 мільярда долараў. Таму віцэ-прэм'ер Лешак Бальцэровіч таксама перакананы, што неабходна, па-першае, зменшыць кошт візаў (ваўчараў), зрабіць іх шматразовымі і лёгкадаступнымі. Нізкія абароты базараў могуць не толькі выклікаць рост беспрацоўя ў Польшчы, але таксама парушыць усю эканоміку краіны. Да гэтага часу паступленні ад прыватнага гандлю дазвалялі спакойна скампенсаваць бюджэтны дэфіцыт краіны. Страта такой крыніцы, як прыгранічны бізнес, можа прывесці да адтоку замежных інвестараў, папярэджваюць аналітыкі.

Польшча ўзважана і мэтанакіравана ідзе да членства ў Еўрапейскім Саюзе: міністэрства фінансаў павінна распрацаваць палажэнне аб тым, каб іншаземцы, якія выязджаюць з Польшчы, маглі на мяжы вярнуць сабе падаткі, якія яны заплацілі нароўні з палякамі. Такое правіла дзейнічае ў краінах ЕС — каб атрымаць кампенсацыю на мяжы, дастаткова прад'явіць адпаведныя рахункі за прыдбаныя тавары. Магчыма, неўзабаве цывілізаваныя еўрапейскія правілы будуць распаўсюджвацца і на беларусаў. Рынкавая эканоміка кіруецца адным галоўным правілам: выгада — прыбытак — працоўныя месцы.

З Украінай Польшча год таму назад заключыла пагадненне аб бязвізавых зносінах, таму польска-ўкраінскі гандаль зусім не закранулі новыя правілы. Аднак Брусель разглядае ўсходнія межы Польшчы перадусім з пункту гледжання бяспекі — як вялізны фільтр для нелегальнай іміграцыі і крымінальнікаў. Моцнае падзенне жыццёвага ўзроўню на Украіне абумоўлівае высокі міграцыйны патэнцыял, і Польшчы раней ці пазней давядзецца зачыніць і ўкраінскую мяжу.

Адзінае суцяшэнне: нават пасля ўступлення ў ЕС мяжа з Літвой застанецца адкрытай. У канцы мінулага года нямецкі міністр замежных справаў Клаўс Кінкель паабяцаў грамадзянам Літвы, Эстоніі і Латвіі дамову аб бязвізавых зносінах з ЕС. Але для палякаў выпадак з літоўцамі з'яўляецца слабым суцяшэннем — у знешнегандлёвай статыстыцы гэтая краіна займае адно з апошніх месцаў.

**Клаўс БАХМАН**, *Варшава*
**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**, *Гродна*

## Расія зноў убаку

**Нядаўна на сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) адбылося абранне суддзяў Адзінага еўрапейскага суда па правах чалавека.**

Адзіны еўрапейскі суд па правах чалавека ствараецца ў рамках рэформы Савета Еўропы з мэтай падвысіць эфектыўнасць гэтай агульнаеўрапейскай арганізацыі. Ён будзе працаваць замест цяперашніх Камісіі па правах чалавека (гэтая камісія прымае калектыўныя і індывідуальныя скаргі і вырашае, ці браць іх да разгляду) і Еўрапейскага суда па правах чалавека, што займаецца ўласна судовымі разборамі і выносіць рашэнні. Адзіны суд павінен прыступіць да працы 1 лістапада. Ён будзе разглядаць і звароты асобных грамадзянаў, і міждзяржаўныя спрэчкі.

Кандыдатуры суддзяў — па тры ад кожнай краіны — прадстаўленыя 39 краінамі-членамі СЕ. Выключэнне складае Расія, якая дагэтуль не ратыфікавала Еўрапейскую канвенцыю па правах чалавека. Расія пакуль што не мае права выстаўляць свае кандыдатуры. А тым часам у Страсбург паступіла ўжо каля 800 скаргаў ад расійскіх грамадзянаў, якія не могуць быць прынятыя да разгляду, пакуль гэтая краіна не ратыфікуе канвенцыю.

## Хочаш ажаніцца — падпішы дамову

**Грамадзяне Узбекістана, якія ўступаюць у шлюб, будуць заключаць адпаведную дамову. Гэта прадугледжвае Сямейны кодэкс, праект якога апублікаваны для абмеркавання.**

Як паведамілі ва ўзбекскім парламенце, закон не мае аналагаў у СНД і ягоная мэта — «умацаванне сям'і, адказнасці яе членаў, абароны яе правоў». Шлюбная дамова рэгулюе маёмасныя правы мужа і жонкі і ўступае ў сілу з моманту дзяржаўнай рэгістрацыі шлюбу. Пры гэтым яна не можа рэгуляваць асабістыя немаёмасныя адносіны паміж сямейнікамі. Змяніць або скасаваць дамову па жаданні мужа або жонкі можа толькі суд.

Паводле кодэкса, ва Узбекістане мужчыны могуць шлюбавацца з 18 гадоў, жанчыны — з 17. Усе, хто ўступае ў шлюб, павінны прайсці медычнае абследаванне і пракансультавацца па медыка-генетычных пытаннях. Цікавая дэталь: калі адна з асобаў утаіла наяўнасць венерычнай хваробы або ВІЧ-інфекцыі, то другі партнёр можа звярнуцца ў суд аб прызнанні шлюбу несапраўдным. Пакуль што такіх выпадкаў не зафіксавана.

## Стварылі Народны Фронт

**Шэраг апазіцыйных рэспубліканскіх і рэгіянальных партыяў і рухаў стварылі Народны Фронт Казахстана, які збіраецца вылучыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты краіны.**

Устаноўчая канферэнцыя Фронту адбылася вечарам у мінулую пятніцу ў былой сталіцы Казахстана Алма-Аце. У ёй узялі ўдзел больш за 20 прадстаўнікоў кампартыі, сацыялістычнай партыі, Рабочага руху, іншых грамадска-палітычных аб'яднанняў. На канферэнцыі была прынятая палітычная праграма і праграма дзеянняў рэспубліканскай асацыяцыі грамадскіх рухаў — Народнага Фронту Казахстана.

Народны фронт вылучыць на прэзідэнцкіх выбарах «агульнага кандыдата». Г.Абільсіітаў, якога абралі кіраўніком руху, не называе канкрэтных кандыдатаў і адзначае, што абранне кіраўніка дзяржавы павінна абавязкова адбыцца не пазней чым у 2000 годзе. Нагадаем, што прэзідэнцкія паўнамоцтвы Н.Назарбаева былі працягнутыя да 2000 года на рэферэндуме ў 1995 годзе.

## Украінскі эфір — расійскія грошы

**Украіна і Расія дамовіліся аб узаемным распаўсюджванні інфармацыйных сігналаў тэлевізійных і радыёканалаў.**

Шэраг выданняў, а таксама адзін тэлерадыёканал будуць распаўсюджвацца на ўкраінскай мове на тэрыторыі Расіі за кошт федэральнага бюджэту РФ. Як паведаміў міністр інфармацыі Украіны Зіновій Кулік, пагадненне аб абмене інфармацыі паміж Украінай і Расіяй падпісанае ў Маскве падчас візіту Леаніда Кучмы.

Гэтае пагадненне прадугледжвае «аналагічныя меры» і на тэрыторыі Украіны. Пакуль невядома, якія менавіта ўкраінскія выданні і каналы будуць распаўсюджвацца на тэрыторыі Расіі: гэта вызначыць спецыяльнае пагадненне. Расія павінна правесці перараззмеркаванне частотаў і стварэнне ўмоваў для распаўсюджвання ўкраінскай інфармацыі.

З.Кулік назваў падпісанае пагадненне *«сур'ёзным прарывам у дачыненнях з Расіяй»*, бо яно азначае *«прызнанне ўкраінскага інфармацыйнага суверэнітэту»*. *«Украіна дамагалася парытэтнасці ў сферы абмену інфармацыяй з Расіяй»*, — падкрэсліў міністр.

*На падставе паведамленняў інфармацыйных агенцтваў падрыхтавала* **Алена СУРКО**

# Эх, Масленіца!



Масленіца — апошняе зімовае свята, ад яго пачынаецца Вялікі пост. На здымках вы бачыце, як святкавалі ў мінулыя выхадныя Масленіцу ў Смалявічах — райцэнтры Мінскай вобласці. Адны танцавалі ў паліто і хустках, а вось у маладога хлопца (на фота справа) кроў яўна гарачая: холад яму не страшны.

## П'яныя забойствы

**Брэсцкая вобласць «абагнала» ўсе іншыя рэгіёны нашай краіны па колькасці забойстваў.**

З пачатку года на Брэстчыне ўжо зарэгістраваны 73 забойствы. Летась ад рук злачынцаў загінулі 182 чалавекі. Кожнае трэцяе забойства ўчыненае ў выніку сямейных канфліктаў, кожнае другое — падчас п'янак, і кожнае восьмае — жанчынай.

## Злачынны аўтабізнес

**Днямі на аўтамабільным рынку паблізу вёскі Азярцо Мінскага раёна міліцыя затрымала арганізаваную злачынную групу.**

У яе ўваходзілі трое грамадзянаў Літвы і жыхар Мінска. У злачынцаў сканфіскаваны самаробныя ўлікова-рэгістрацыйныя дакументы на аўтамабілі, фальшывыя бланкі тэхнічных пашпартоў на аўтатранспарт, даверанасці, транзітныя нумарныя знакі і каля 40 розных пячатак.

*БелаПАН*

## Срэбра падвяло

**Супрацоўнікі Гомельскай мытні затрымалі партыю кантрабандных срэбных упрыгожванняў агульнай вагой больш за 5 кг.**

Каштоўны груз незаконна спрабавалі ўвезці на тэрыторыю Беларусі грамадзяне з Украіны. Цяпер яны даюць тлумачэнні следчым.

**У.В.**

*Спорт*

## Працяг Алімпіяды ў Нагана

**У канцы мінулага тыдня ў Мінску адбылася цырымонія провадаў беларускай нацыянальнай каманды на сёмыя Параалімпійскія зімовыя гульні.**

Яны пройдуць 5-14 сакавіка ў японскім горадзе Нагана, дзе зусім нядаўна завяршыліся спаборніцтвы XVIII зімовай Алімпіяды. Як паведаміў начальнік упраўлення міністэрства спорту і турызму Валерый Мацкевіч, у складзе беларускай зборнай — шэсць спартсменаў-інвалідаў, якія возьмуць удзел у двух відах праграмы — лыжных гонках і біятлоне. Самы вопытны ў камандзе — Васіль Петрачук з Віцебска, які на апошніх Параалімпійскіх зімовых гульнях у Лілехамеры (Нарвегія) заняў восьмае месца ў лыжнай гонцы на 10 кіламетраў.

Як адзначыў Валерый Мацкевіч, спартсмены-інваліды экіпіраваныя і забяспечаныя спартыўным інвентаром «па той жа праграме», што і члены беларускай алімпійскай каманды; усе расходы па іх падрыхтоўцы і забеспячэнні ўдзелу ў Параалімпіядзе ўзяла на сябе дзяржава.

*БелаПАН*

## Першы крок да Эверэста

**У апошні дзень лютага група мацнейшых альпіністаў Беларусі выехала з Мінска на Цэнтральны Каўказ, дзе пройдуць зборы па падрыхтоўцы і адборы кандыдатаў у першую нацыянальную экспедыцыю на Джамалунгму (Эверэст) — самую высокую гару свету.**

Як паведаміў прэзідэнт Беларускай федэрацыі альпінізму Аляксандр Гадлеўскі, у складзе групы — 25 спартсменаў, майстроў спорту, «снежных барсаў» (гэты тытул прысвойваецца альпіністам, якія пабывалі на ўсіх чатырох горных вяршынях СНД, што маюць вышыню больш за сем тысячаў метраў). Ёсць сярод кандыдатаў у склад нацыянальнай каманды і альпіністы з гімалайскім досведам: двое з іх — Віктар Кульбачэнка і Аляксандр Шынкарэнка — падымаліся і на вышыні за 8.000 метраў.

У праграме двухтыднёвых збораў — узыходжанні на Эльбрус (5.642 м) і Курмычы (4.312 м), шэраг трэніровачных пад'ёмаў, правядзенне снежна-лядовых заняткаў, здача кантрольных нарматываў. Па выніках збораў будуць адабраны 12—15 спартсменаў, якія прадоўжаць падрыхтоўку да экспедыцыі, прызначанай на вясну 1999 года.

*БелаПАН*

## Праграма «Чысты Нёман»

Гродзенскі аблвыканкам сумесна з Навукова-даследчым інстытутам комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў завяршаюць працу над праграмай «Чысты Нёман».

Праграма прадугледжвае шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па аздараўленні ракі і яе прытокаў, аналіз усіх працэсаў яе забруджвання, а таксама выпрацоўку мераў па іх прадухіленні. Найперш гэта — будаўніцтва эфектыўных ачышчальных збудаванняў ва ўсіх райцэнтрах Гродзенскай вобласці.

Праграма «Чысты Нёман» будзе выконвацца ў супрацоўніцтве з урадамі і органамі мясцовага самакіравання Літвы.

*БелаПАН*

## Даты і лёсы

*3 сакавіка*

**1067.** Аб'яднаныя войскі князёў Кіеўскай Русі разбілі на Нямізе войска полацкага князя Усяслава, захапілі Мінск, пасеклі ўсіх мужчын, а дзяцей і жанчын узялі ў палон. Бітва апісаная ў «Слове пра паход Ігаравы».

**1918.** Расія падпісала ў Брэсце сепаратны мір з Германіяй і яе хаўруснікамі. Паводле яго, Германіі аддавалася заходняя частка Беларусі — Пружаны, Гродна, Ліда.

**1942.** Нарадзіўся першы міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі. Пайшоў у адстаўку разам з урадам В.Кебіча, а цяпер узначальвае камітэт па абароне ў Нацыянальным выканаўчым камітэце апазіцыі.

**1971.** Беларуская ССР падпісала Дагавор аб забароне размяшчэння на дне мораў і акіянаў ядзернай зброі масавага знішчэння.

**1983.** Скончыў жыццё самагубствам англійскі пісьменнік венгерскага паходжання Артур Кёстлер — аўтар знакамітага рамана «Цемра апоўдні» пра псіхалогію катаў і ахвяраў паказальных судовых працэсаў над апазіцыяй у СССР 30-х гадоў. Кёстлер вырашыў пайсці з жыцця разам з жонкай, якая пакутавала ад лейкеміі і хваробы Паркінсона.

*4 сакавіка*

**1386.** Князь Ягайла ўзышоў на польскі трон пад імем Уладзіслава II.

**1503.** Вялікае княства Літоўскае падпісала чарговае перамір'е з Княствам Маскоўскім, паводле якога да Масквы адышлі Чарнігаў, Бранск, Гомель і частка Мсціслаўскага княства.

**1678.** Нарадзіўся знакаміты італьянскі кампазітар і скрыпач Антоніо Вівальдзі.

**1873.** Пачала выходзіць першая штодзённая ілюстраваная газета *New York Daily Graphic.*

**1928.** У сувязі з пашырэннем аўтобуснага руху была ліквідаваная мінская конка.

**1933.** На пасаду прэзідэнта ЗША заступіў Франклін Д.Рузвельт. Амерыканцы настолькі ўпадабалі яго, што абіралі прэзідэнтам яшчэ тройчы.

**1950.** Памёр адзіны чалавек, які быў спачатку карлікам, а потым веліканам. Аўстрыец Адам Рэйнер у 21 год меў толькі 119 см росту, але нечакана пачаў хутка расці. Неўзабаве ён дарос да 237 см, але так аслабеў, што апошнія 20 гадоў жыцця праляжаў у ложку.

**1958.** Амерыканская атамная падводная лодка *Nautilus* упершыню прайшла над Паўночным полюсам.

**1958.** Нарадзіўся вядомы літаратурны перакладчык, выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі.

*5 сакавіка*

**1946.** Былы прэм'ер Вялікабрытаніі Ўінстан Чэрчыль выступіў у ЗША з лекцыяй, ад якой вядуць адлік пачатку «халоднай вайны»: «Ад Шчэціна на Балтыцы да Трыеста на Адрыятыцы жалезная заслона апусцілася пасярод Еўропы... Амаль ва ўсіх краінах на ўсходзе кантынента да ўлады прыйшлі паліцэйскія рэжымы. Гэта не тая свабодная Еўропа, дзеля стварэння якой мы змагаліся падчас вайны».

**1953.** У адзін дзень памерлі знакаміты кампазітар і ягоны крытык. Гаворка ідзе пра Сяргея Пракоф'ева і музыказнаўцу, карыфея многіх іншых навук і «бацьку» ўсіх народаў Іосіфа Сталіна. Сталін вінавяціў Пракоф'ева ў буржуазным фармалізме і патрабаваў перапісаць створаную раней «няправільную» музыку.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**







© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1158 Нумар падпісаны ў друк 02.03.98 (15:00) Наклад — 15.555